


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

18 жніўня 2000 года
№ 33 (278)
Цана ў розніцу 80 рублёў

TV плюс

## Навіны рэгіёна

### Скаўты сабраліся разам

**ВІЛЕЙКА**. Сярэдзіна месяца прыйшлася самым гарачым часам для Аб'яднання Беларускіх Скаўтаў. З 14 па 21 жніўня гэтая дзіцячая арганізацыя ладзіць на беразе Вілейскага вадасховішча традыцыйны агульнарэспубліканскі летнік. Як і заўсёды, у праграме спартыўныя гульні, адукацыйныя мерапрыемствы, экалагічная школа, воднае падарожжа.

Аляксей ЧУБАТ.

### Аўтобусаў не пабольшае

**МАЛАДЗЕЧНА**. Застаецца напружаным становішча з аўтобусным рухам у Залінейным раёне ("Лясныя"), якое пагоршылася ўжо колькі год таму. Сёння на гарадскія маршруты штодзённа выходзіць усяго 24 аўтобусы, што для горада са 100-тысячным насельніцтвам вельмі мала. Да паляпшэння фінансавага становішча ў горадзе і аўтапарку праблема не вырашыцца. Такое меркаванне выказаў намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык** на сустрэчы з калектывам радыёзавода "Спадарожнік", якая прайшла ў сераду.

Аддзел інфармацыі.

### Мядзел – цэнтр турбізнесу?

**МЯДЗЕЛ**. Вядомая турфірма "Sakub" адкрыла сваё прадстаўніцтва ў Мядзеле. Лічаць, што ёсць перспектывы ў турбізнесе і ў гэтым рэгіёне. Спадзяюцца, што кліенты будуць таксама з навакольных раёнаў, ды і Нарач з яе здраўніцамі блізка. Пакуль найбольш ахвочых на візы, паляцелі ўжо мядзельчане і на Кіпр.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Пуцеправод адкрыецца

**МАЛАДЗЕЧНА**. Завяршыліся рамонтныя работы на палове пуцепровода па вуліцы Віленскай. Праз два тыдні, што неабходна па тэхналогіі, адкрыецца праезная частка. Тратуару яшчэ патрэбны рамонт. У красавіку–маі наступнага года закрыюць для рамонту другую палову пуцеправода. Работы першай чаргі каштавалі 200 мільёнаў рублёў і былі прафінансаваныя з дарожнага фонду Мінаблвыканкома.

Аддзел інфармацыі.

### Візітацыі пачаліся з Будслава

**МЯДЗЕЛ**. У аўторак біскуп **Кірыл Клімовіч** наведаў з візітацыяй Будслаўскую парафію. Сустрэўся з дзецьмі і моладдзю, адправіў святую імшу ў мясцовым касцёле, памаліўся на магілах за памерлых. Наведаў і Ілава. З Будслава біскуп пачаў візітацыю ўсёй Мінска–Магілёўскай дыяцэзіі.

Алесь ВЫСОЦКІ.

**У сувязі з правядзеннем пуцявых работ, 22 жніўня прыгарады цягнік Крулеўшчына-Паставы ідзе толькі да станцыі Варапаева.**



## Надвор'е на выхадныя

Субота, 19 жніўня

**Мінск**
12 - 14°С (уначы)
26 - 27°С (удзень)



**Вільня**
10°С (уначы)
26°С (удзень)



Нядзеля, 20 жніўня

**Мінск**
16 - 17°С (уначы)
28 - 29°С (удзень)



**Вільня**
15°С (уначы)
26°С (удзень)





Столькі каштавалі хлебабулачныя вырабы ў Ашмянах 14 жніўня 2000 года.

Фота Юрыя Карпіцкага.

# Смаргонь Ашмянам не таварыш

**АШМЯНЫ. Танны хлеб – дэфіцыт у раёне.**

Месяц таму у райцэнтры пачаў знікаць танны хлеб, які завозілі сюды мясцовыя прадпрымальнікі са Смаргонскага хлебазавода: забаранілі гандаль хлебам з машын. Падставай стала парушэнне санітарных нормаў.

Цяпер смаргонскі хлеб застаўся ў двух прыватных гандлёвых пунктах і трох харчовых магазінах, якія і раней займаліся яго продажам. А так можна пабачыць у горадзе з пятнаццацітысячным насельніцтвам толькі "цаглінкі" з мясцовага хлебазавода коштам 248 рублёў. Гэта даражэй, чым, прыкладам, у Маладзечне, больш чым у паўтара раза. Нагадаем, сярэдняя заработная плата рабочых і служачых Ашмяншчыны самая нізкая ў рэгіёне.

Гаворыць дырэктар смаргонскага хлебазавода **Іван Касцюшка**:

– Супрацоўніцтва з большасцю ашмянскіх прадпрымальнікаў скончылася ў пачатку ліпеня. Мы згубілі 7 партнёраў. На Ашмяны было арыентавана да 30 працэнтаў нашай прадукцыі. У чэрвені (гэта быў апошні поўны "рабочы" месяц) пяць прадпрымальнікаў з сямі вывезлі прадукцыі на 18 мільёнаў – з 88 мільёнаў усёй выраблёнай. Давядзецца шукаць новыя рынкі збыту. Плануем перайсці на Маладзечна. Адзін з мясцовых магазінаў бярэ тону ў месяц. Але існуе праблема: не хапае ў нас транспарту. У Ашмяны асноўная частка хлеба дастаўлялася самавывазам.

Хлеб са Смаргоні каштуе: "цаглінка" –110 рублёў, больш "элітныя" "Светлагорскі" – 222 рублі, "Сузор'е" – 234 (без упакоўкі) і 252 (з упакоўкай) рублі плюс 15–працэнтная гандлёвая надбаўка.

Прадпрымальнік з Ашмянаў **Савацій Дарашкевіч** возіць смаргонскі хлеб з 1995 года. Першыя два гады быў манапалістам. Апошнім часам, гаворыць, рэалізоўвалі танны хлеб усе, каму толькі хацелася. Першы год гандляваў з машыны (дакладней, з дзвюх), потым абсталяваў стацыянарны гандлёвы пункт. Дзякуючы гэтаму, забарона ад санітарнай службы яго абмінула.

Месячны абарот складае каля 5 мільёнаў. Перавагу аддае хлебу з батонам, хаця, бывае, завозіць пячэнне, здобу, кандытарскія вырабы.

На пытанне, чаму такі дарагі ашмянскі хлеб, і І. Касцюшка і С. Дарашкевіч лічаць істотным малыя аб'ёмы вытворчасці хлебабулачных вырабаў. Прадпрымальнік дадаў, што на хлебазаводах існуе розніца ў тэхналогіі, колькасці занятых работнікаў і ў кваліфікацыі кадраў. Толькі свабодная канкурэнцыя можа палепшыць якасць і зменшыць цану мясцовага хлеба.

А так ашмянцам застаецца толькі задавальняцца "фірменным" магазінам "Гарачы хлеб" ля хлебазавода: 30 працэнтаў сваёй прадукцыі ён прадае па цане ў 2 разы ніжэйшай, чым звычайна. Дапамагае ў гэтым мясцовы бюджэт, які дае датацыю.

Другі варыянт: тыя, хто мае магчымасць, едуць у Смаргонь.

Юрый КАРПІЦКІ.

«Спадарожнік».

# Працуе 300 чалавек

МАЛАДЗЕЧНА. У межах дня інфармавання на заводзе "Спадарожнік" абмяркоўвалася становішча на прадпрыемстве.

Перад працоўным калектывам выступіў дырэктар **Уладзімір Шпакаў**. Ён спасылаўся на аб'ектыўныя цяжкасці пераходу "Спадарожніка" ва ўмовы свабоднага рынку. Цяпер на заводзе працуюць 300 чалавек, якія вымушаныя утрымліваць яшчэ паўтары тысячы. Дырэктар правёў паралель з аналагічным расійскім заводам, колькасць рабочых якога скарацілася ў 90–х гадах з 8 тысяч да 150 чалавек. Не забыўся сказаць, што падаткі завод аплачвае своечасова. Праўда, сярэдняя сума падатку за першае паўгоддзе, якая прыходзіцца на аднаго рабочага "Спадарожніка", складае 29 тысяч рублёў. Пры тым у горадзе ёсць прадпрыемствы, якія плацяць па 700 тысяч на рабочага.

Старшыня гарвыканкома **Мікалай Чурсін**, які прысутнічаў на сустрэчы, прапанаваў У. Шпакаву да 1 верасня падрыхтаваць падрабязную праграму выхаду з крызісу. М. Чурсін параўнаў стан спраў на "Спадарожніку" і "Электрамодулі". Заўважыў, што на апошнім такая праграма ўжо ёсць. Таму выканком знойдзе, як і чым дапамагчы гэтаму прадпрыемству. Акрамя таго, трэба своечасова выплаціць работнікам "Спадарожніка" заробтную плату, каб яны маглі купіць сваім дзецям усё неабходнае да новага навучальнага года.

Аддзел інфармацыі.

## Экспрэс–апытанне маладзечанцаў

# Як рыхтуецеся да навучальнага года?



**Марына Машко, часова не працуе:**

– Сшыткі і астатнюю "драбязу" пачала ўжо купляць. Цяпер дорага вучыць дваіх дзяцей: дачка вучыцца ў тэхнікуме, а сын – у вучылішчы. Мала таго, за вучобу дачкі трэба плаціць таксама.



**Тацціяна Краўчанка, прадавец:**

– Даводзіцца мірыцца з дарагавізнай. Усім цяжка, тым больш, я адна выхоўваю сваіх дзяцей. Хацелася б, зразумела, каб усё было таннейшае, але сама працую ў сферы гандлю і разумею, што прадпрыемствы, якія выпускаюць школьныя прылады, павінны мець прыбытак.



**Ірына Еўдакімчык, спецыяліст 1 катэгорыі па рабоце з насельніцтвам:**

– Учора ездзіла ў Ашмяны, афармлялі дагавор на платнае навучанне дачкі ў мясцовы каледж. Усе неабходнае да навучальнага года купілі, не хапае толькі спартыўнага касцюма.



**Вадзім Раманькоў, школьнік, СШ №12:**

– Чакаю праграмную літаратуру да 11 класа. На наступны год буду паступаць у Беларускі Дзяржаўны універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі, але задачкі рашаю ўжо цяпер.

■ МЕРКАВАННЕ

# Крымінальная мараль

**МАЛАДЗЕЧНА. У сярэдзіне ліпеня ў адзін дзень ад электрычнага току загінулі 47-гадовы Уладзімір Івашынка і 18-гадовы Вадзім Стрыга.**

Гэтыя падзеі аб'яднала адна акалічнасць, адна рыса характару чалавека: абыякавае стаўленне да самай вялікай каштоўнасці ў свеце – чалавечага жыцця. А зварот сына загінуўшага, **Андрэя Івашынкі**: "За што загінуў бацька?" – вымусіў узяцца за тэму, хаця яна вельмі "выбуховая", бо закранае вялікіх чыноўнікаў на вялікіх пасадах. А час сёння такі, што за грошы можа быць зроблена ўсё... Але няхай яна стане напамінам і ўрокам іншым. Бо час спыніць "вар'яцкія гульні" у чалавечыя жыцці! Гэты матэрыял – мой погляд на факт, мая пазіцыя. Ён ніколькі не прэтэндуе на нейкае незалежнае расследаванне. Не хачу і не буду адбіраць кавалак хлеба ў праваахоўных органаў.

Цяпер у краіне дзейнічае больш за дзесятак нарматыўных актаў аб працы і яе ахове. Так, у галоўным Законе Беларусі – Канстытуцыі – сказана, што "грамадзянам РБ гарантуецца права на здароўе і бяспечныя умовы працы; правы грамадзян на ахову здароўя забяспечваюцца ўдасканальваннем аховы працы" (арт. 4.1–4.5). Але, на жаль, добрыя рашэнні, нават на дзяржаўным узроўні не заўсёды выконваюцца. Беззаконне, як іржа ў жалезе, "раз'ела" сумленне многіх людзей. Асабліва яно ўплывае на моладзь. Адсюль і абыякавасць, грубасць, бяздушша і вандалізм... Цяжкі малюнак, калі такі малады чалавек – кіраўнік недзе на прадпрыемстве, калі ў яго руках жыцці падначаленых. Ці ж не ведала кіраўніцтва станказавода пра ўмовы працы электрыкаў, што скрозь яны парушаюцца? А на заводзе ж ёсць інжынер па тэхніцы бяспекі, энергетык, павінны быць наладжаныя прафсаюзны і грамадскі кантроль. Трэба было чакаць смерці мужчыны (няхай ён быў і дасведчаны электрык), каб узяцца за ахову працы?

Ці вось другі выпадак: трагічная смерць навучэнца палітэхнікума Вадзіма Стрыгі. На абавязковую практыку пасля 3–га ўжо курса ён трапіў на будаўніцтва звычайнага катэджа, які ўзводзіцца пад відам нейкага важнага дзяржаўнага аб'екта ў 4–м мікраараёне горада. Смерць юнака не спыніла будоўлю на вялікі тэрмін, яна працягваецца!

Па іроніі лёсу і недарэчнай выпадковасці будаўніцтва таго шыкоўнага катэджа вядзецца недалёка (у метрах 100) ад вуліцы імя В. Ляшковіча. Я добра ведаю: гэты чалавек ніколі не быў бы абыякавы да такога, ён даўно "дайшоў" бы да вышэйшых уладаў. Бо ён быў чалавек найвялікшага сумлення, не дазваляў адорваць сябе незаслужанымі льготамі і падарункамі. Жыццё-прыклад пражыў не ў катэджы!

Параўноўваю характары, сумленні, адносіны да людзей іншых кіраўнікоў. Уразіў факт з жыцця калектыву прамыслова–гандлёвага камбіната (ПГК) "Аксаміт". Дырэктар тут – **Лідзія Татун**. Бачылі б вы, на чым ездзіць кіраўніцтва камбіната! На старэнькім "Жыгулёнку"! Дырэктар ажно з Нідэрландаў узяла ў арэнду не нейкую модную іншамарку, а прасавальны прэс. Вось з каго трэба браць прыклад маладым кіраўнікам як ставіцца да людзей, іх лёсу, дабрабыту!

Ці іншыя прыклады добрасумленнай працы: інспекцыі супрацьпажарнай аховы, добраахвотнай народнай дружыны Паўднёвага раёна, калектыву педагогаў мастацкай СШ №4, дзіцячай музычнай школы і шмат іншых.

Само просіцца пытанне: а дзе ж нашы наглядальнікі за выкананнем правілаў па ахове працы? Яны ж прафесіяналы і павінны папярэджваць трагічныя выпадкі. Ад такой працы, калі гінуць людзі, адзін вынік – дзіркі ў штанах адзаду ды ўмяціна ў крэсле! З усімі такімі фактамі павінна разбірацца і пракуратура, яна таксама павінна займацца наглядам за выкананнем працоўнага заканадаўства.

**Мечыслаў СТАНКЕВІЧ, жыхар Маладзечна.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 10 жніўня | 17 жніўня |
|---|---|---|
| Долар | 820,00 руб. | **845,00** руб. |
| Нямецкая марка | 376,14 руб. | **392,49** руб. |
| Літ | 204,95 руб. | **211,22** руб. |
| Расійскі рубель | 29,60 руб. | **30,47** руб. |
| Злоты | 187,88 руб. | **194,81** руб. |
| ЕЎРА | 735,66 руб. | **767,64** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 995 – 1010 руб. | **1000 – 1020** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 09.08 | 16.08 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1350 | **1480** |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 4950 | **5200** |
| Сасіскі, 1 кг | 1395 | **1375** |
| Селядзец, 1 кг | 800 | **847** |
| Рыс, 1 кг | 350 | **350** |
| Грэчка, 1 кг | 610 | **610** |
| Цукар, 1 кг | 465 | **465** |
| Алей, 1 л | 700 | **690** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 390 | **400** |
| Маянэз, 250 г | 160 | **150** |
| Кава "Пеле", 100 г | 900 | **900** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 280 | **280** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 320 | **340** |
| Лімоны, 1 кг | 980 | **950** |
| Апельсіны, 1 кг | 540 | **540** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 280 | **300** |
| Капуста, 1 кг | 100 | **100** |
| Кавун, 1 кг | 200 | **200** |
| Дыня, 1 кг | 700 | **600** |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Смятана, 1 л | 600 | **700** |
| Масла, 1 кг | 1500 | **1600** |
| Тварог, 1 кг | 450 | **450** |
| Малако, 1,5 л | 200 | **200** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 500 | **500** |
| Бульба маладая, малое вядро | 400 | **400** |
| Морква маладая, 1 кг | 200 | **200** |
| Персікі, 1 кг | 880 | **900** |
| Маліны, малое вядро | 3500 | **4000** |
| Сліва, малое вядро | 1300 | **1300** |
| Алыча, малое вядро | 1000 | **1000** |
| Брусніка, малое вядро | | **6000** |
| Агуркі, 1 кг | 200 | **250** |
| Памідоры, 1 кг | 300 | **380** |
| Яблыкі, 1 кг | 250 | **250** |
| Грушы, 1 кг | 250 | **350** |

■ ПРЭС-РЭЛІЗ

# Першыя вынікі работы «Гарачай лініі»

**МІНСК. Месяц таму ў Мінску пачала работу "гарачая лінія" для прадпрымальнікаў па перарэгістрацыі і іншых актуальных пытаннях здзяйснення прадпрымальніцкай дзейнасці. "Гарачая лінія" у Мінску арганізаваная сумесна праектам Міжнароднай фінансавай карпарацыі (МФК) "Развіццё малога і сярэдняга бізнесу ў Беларусі", які фінансуецца Агенцтвам ЗША па міжнародным развіцці, і Мінскім сталічным саюзам прадпрымальнікаў і работадаўцаў.**

Вынікі першых тыдняў работы гарачай лініі былі падведзеныя на прэс–канферэнцыі, якая адбылася ў Мінскім сталічным саюзе прадпрымальнікаў і работадаўцаў.

Як адзначыў кансультуючы юрыст "гарачай лініі" **Сяргей Стрэльчык**, у Мінску асноўнай тэмай кансультацый стала перарэгістрацыя.

Па словах прэзідэнта Мінскага сталічнага саюза прадпрымальнікаў і работадаўцаў **Уладзіміра Карагіна**, у беларускіх прадпрымальнікаў шмат праблем. Напрыклад, моцна ўзрос стратны бок прадпрымальніцкай дзейнасці (у тым ліку, за кошт павелічэння стаўак арэнднай платы).

Прадпрымальніцкія структуры зніжаюць сваю актыўнасць, перастаюць інвесціраваць у развіццё ўласнага бізнесу, а то і наогул, спыняюць дзейнасць. Па ацэнцы У. Карагіна, за год ідзе ў нябыт прыкладна 30% фірмаў. Многія фірмы мяняюць сваю "прапіску", выводзячы бізнес, напрыклад, у Расію. Частыя выпадкі змены юрыдычнага статусу суб'ектаў гаспадарання, калі сумеснае прадпрыемства становіцца іншаземным. У беларускіх банках адкрываецца ўсё больш рахункаў індывідуальных прадпрымальнікаў і ўсё менш рахункаў юрыдычных асоб. Магчыма, гэта сведчыць пра тое, што ў бліжэйшы час колькасць малых і сярэдніх прадпрыемстваў значна зменшыцца.

Як было адзначана на прэс-канферэнцыі, многія прадпрымальнікі не могуць зарэгістраваць новае прадпрыемства, таму што ўсё яшчэ лічацца ў колькасці заснавальнікаў тых юрыдычных асоб, якія былі ліквідаваныя ў ходзе мінулай перарэгістрацыі, але пакуль усё яшчэ не прайшлі працэдуру ліквідацыі да канца (а іх налічваецца парадку 20000).

Працэдура рэгістрацыі празмерна ўскладненая, памеры статутных фондаў малых і сярэдніх прадпрыемстваў непамерна высокія, і таму многія прадпрымальнікі імкнуцца да больш простых формаў прадпрымальніцкай дзейнасці, закрываючы свае фірмы і робячыся індывідуальнымі прадпрымальнікамі. Пры гэтым змяншаецца колькасць рабочых месцаў і зніжаюцца аб'ёмы падатковых плацяжоў у бюджэт.

"Гарачая лінія" дапамагае разабрацца ў пытаннях перарэгістрацыі прадпрымальнікам малога бізнесу і індывідуальным прадпрымальнікам, якія не могуць аплачваць паслугі юрыстаў.

"Гарачая лінія" у Мінску працуе па тэлефоне 2271022 кожны рабочы дзень з 10 да 16 гадзін.

Акрамя тэлефонных кансультацый, мінскія прадпрымальнікі скарысталі магчымасць наведаць пункт гарачай лініі па адрасе: К. Маркса, 15, пакоі 402 і 403 і атрымаць брашуры ў дапамогу прадпрымальнікам, распрацаваныя праектам МФК "Развіццё малога і сярэдняга бізнесу ў Беларусі".

За дадатковай інфармацыяй звяртайцеся ў Каардынацыйны цэнтр праекта МФК "Развіццё малога і сярэдняга бізнесу ў Беларусі".

Тэл. 228-18-38.

**Аддзел інфармацыі.**

■ ЭКАНОМІКА

# Новая рэдакцыя закона аб абароне спажыўца

**МІНСК. Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый прадставіла на разгляд Савета Міністраў праект Закона Рэспублікі Беларусь «Аб абароне правоў спажыўца», узгоднены з 16 зацікаўленымі міністэрствамі і ведамствамі.**

Неабходнасць падрыхтоўкі новай рэдакцыі Закона «Аб абароне правоў спажыўца», лічаць у Міністэрстве прадпрымальніцтва і інвестыцый, абумоўлена тым, што дзеючы закон, падрыхтаваны Міністэрствам гандлю рэспублікі ў 1993 годзе, арыентаваны, у асноўным, на абарону правоў спажыўца ў сферы гандлю. Ён не ахоплівае ўвесь спектр работ і паслуг, якія прапаноўваюцца сёння на рынку рэспублікі.

Паводле слоў намесніка міністра **Святланы Пратасевіч**, новая рэдакцыя закона змяшчае прынцыповыя адрозненні па змесце і структуры выкладання. У законапраекце прадугледжана рэгуляванне адносінаў, якія ўзнікаюць паміж спажыўцамі і вытворцамі (выканаўцамі, прадаўцамі) пры рэалізацыі тавараў (выкананні работ, аказанні паслуг), і змяшчаюцца 53 артыкулы замест ранейшых 20.

Нарэшце, з прыняццем новай рэдакцыі закона будзе створаная прававая база для прымянення Міністэрствам прадпрымальніцтва і інвестыцый адміністрацыйных працэдур і спынення парушэння правоў спажыўца.

Летась было зафіксавана больш чым 13 тысяч пісьмовых скаргаў грамадзян на парушэнне шэрагу артыкулаў закона. Больш за палову з іх датычыліся парушэння правоў спажыўца пры продажы ім тавараў неналежнай якасці, адмоў у абмене такіх тавараў, парушэння ўмоў дагавора аб выкананні работы і аказанні паслугі.

**Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН.**

■ ЛЕПШЫЯ

# Сельгастэхнікум – самая выдатная навучальная ўстанова Ашмяншчыны

АШМЯНЫ. Адбыўся чарговы, сорак сёмы па ліку, выпуск навучэнцаў у Ашмянскім сельгастэхнікуме. Без працаўладкавання не застаўся ніхто з выпускнікоў, асноўная частка якіх будзе працаваць на Гродзеншчыне. 17 прававедаў з 87 атрымалі дыпломы з адзнакай, бухгалтараў–выдатнікаў яшчэ больш: 49 са 173.

Па ўдзельнай колькасці выдатнікаў гэтая ўстанова з'яўляецца лепшай у раёне.

**Аляксандр КАРАНЕЎСКІ.**

■ КРЫМІНАЛ

# Нелегальны вываз грыбоў

СМАРГОНЬ. Традыцыйна ў канцы лета–пачатку восені распачынаецца нелегальны вываз з Беларусі грыбоў-лісічак. З адным з першых падобных выпадкаў сутыкнуліся днямі памежнікі Смаргонскага пагранатрада.

Пры афармленні на выезд у Літву ў пункце пропуску «Каменны Лог» быў затрыманы грузавы аўтамабіль «VOLVO», якім кіраваў грамадзянін суседняй дзяржавы. Пры аглядзе аўтамашыны, на якой перавозіліся грыбы, выявілася дадатковае ўкладанне грузу ў параўнанні з дадзенымі, указанымі ў суправаджальных дакументах. «Лішняй» была 1691 скрыня лісічак, ацэненых пазней мытнымі органамі на суму каля 6 мільёнаў рублёў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

■ ЗАРАБОТНАЯ ПЛАТА

# У калгасах пачалі пагашаць даўгі па зарплаце

МАЛАДЗЕЧНА. Агульная запазычанасць па заработнай плаце ў гаспадарках горада і раёна складае больш за 386 мільёнаў рублёў. Амаль 150 мільёнаў "зацягнулі" калгасы, раённыя прадпрыемствы вінаватыя 116,8 мільёна, а на долю гарадскіх прыйшлося 119,5 мільёна. З прамысловых прадпрыемстваў горада даўгі яшчэ за май у "Электрамодуля". На раёне РКБА завінавацілася сваім работнікам ажно за красавік.

Намеснік начальніка гарадскога аддзела статыстыкі **Таццяна Пішчака** гаворыць, што змянілася становішча па запазычанасці па заработнай плаце ў сельскіх гаспадарках. Калі па стане на 1 ліпеня 12 калгасаў з 17 мелі даўгі за сакавік і красавік, то праз месяц даўгі ёсць "толькі" за май. Іх мае палова (9 з 17) гаспадарак раёна. За чэрвень даўгі маюць усе калгасы, акрамя "Маркава".

За чэрвень сярэдняя налічаная заработная плата рабочых і служачых (без уліку калгасаў) склала па Маладзечне 55196 рублёў, а па раёне 58158.

**Аддзел інфармацыі.**

■ СПАЖЫВЕЦ

# Патрабуйце ў в'етнамцаў чэк

**МАЛАДЗЕЧНА. Жыхарка горада купіла на рынку ў в'етнамцаў спартыўны касцюм. Купляць хадзіла разам з сынам. Пасля прымеркі заплацілі грошы, і хлопец у новым касцюме пайшоў дадому.**

Там і звярнулі ўвагу на брак у касцюме. Вярнуліся на рынак, грошы в'етнамцы не вярнулі, а чэк спажыўцы не ўзялі. Іх накіравалі ў таварыства абароны спажыўцоў.

Ведайце: па правілах гандлю на рынках Беларусі, органы кіравання рынкамі абавязаныя арганізоўваць правядзенне кантролю за якасцю прадукцыі, захоўваць заканадаўства аб абароне правоў спажыўцоў (артыкул 14).

Таму нават нерэзідэнты (грамадзяне іншых краін) павінны выпісваць чэк ці распіску ў адвольнай форме. Там трэба зазначыць дату продажу тавару, яго найменне, кошт і подпіс прадаўца. У спрэчных выпадках тады вам лягчэй будзе вярнуць свае грошы. І ўвогуле, раіць кіраўнік таварыства абароны спажыўцоў **Уладзімір Клешч**, не купляйце тавар без чэка, незалежна ад таго, хто вам яго прадае.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



# Паварушы мазгамі, №20

Зароўце, кемлівыя!

А што ж далей? – спытаў я ў вас мінулым разам. Зразумела, фігура №9. Толькі яна, будучы падстаўленая ў верхні рад, адпавядае заканамернасці, паводле якой лікі ў левым верхнім куце паслядоўна змяншаюцца на 2 пункты, з правага верхняга – на адзін пункт. Змесціва ж ніжняга прамавугольніка дзеліцца на 3 і 2 адначасова.

Адказ на другое заданне:




Правільна адказалі на пастаўленыя пытанні **Жэня Булычаў, Марына Буткевіч, Сяргей Валынец, Іван Жамойдзін, Алена Каляда, Андрэй Ляхновіч, Алег Озер, Каця Северына, Сяргей Скрыпцоў, Сяргей Смалонскі, Алёша Стрэж.** Самым шчаслівым, тым, каму па нашай латарэі дастаюцца прыз і дыплом, аказаўся наш даўні карэспандэнт з племені кемлівых **Сяргей Смалонскі** са слаўных Радашковічаў. Так трымаць, Сяргей. Прыз чакае цябе. Віншуем!

## Чорная авечка

Сярод чатырох пранумараваных квадратаў знаходзіцца адзін, які чымсьці выдзяляецца ад іншых. Які і чым?




## Шчарбаты квадрат

Зноў задачка з шэрагу любімых мною – раскладанак. "Шчарбаты" квадрат трэба падзяліць на пяць частак аднолькавай велічыні ідэнтычнай формы так, каб у кожнай знаходзілася па лічбе.




Напішы адказы на паштоўцы і адпраў на адрас рэдакцыі. Сярод тых, хто знойдзе правільнае рашэнне галаваломкам, будзе разыграны прыз. Шчасліўчыку ўручым таксама дыплом.

## Дошка гонару



**Сяргей Стрэж**, пераможца пазамінулага тура. Працуе на прадпрыемстве «Белхол» у Маладзечне.

Да сустрэчы праз два тыдні – напрасіўся на тыднёвы адпачынак, пакуль усе курачкі не парэзалі грыбнікі пад Калодкамі, што на Вілейшчыне. Чакаю адказы!

**Якім ПЯРЭЧКА.**

## Гараскоп 21 – 27 жніўня



**Авен**
(21.03–20.04)

Трэба кантраляваць сябе 23–25 жніўня, таму што эмоцыі будуць гранічна абвостраныя. У гэтыя дні лепш не садзіцца за руль і не заключаць дагаворы. Жанчыны раптам дадуць згоду на даўнюю прапанову.



**Цялец**
(21.04–21.05)

Перыяд крыху лянівы і ўмногім прыемны. 19–20 жніўня прыезд знаёмых або запрашэнне ў госці. Магчымая проста спантанная сустрэча з добрымі людзьмі.



**Блізняты**
(22.05–21.06)

Калі першыя тры дні перыяду выкарыстаеце на поўную моц для завяршэння нейкай справы, то другую палову тыдня можаце спакойна назіраць за тым, што адбываецца.



**Рак**
(22.06–23.07)

Перыяд барацьбы за выжыванне, мітусні, дробных сутычак з усім светам. Ракі, якія мабілізуюць волю, уключаць сваю інтуіцыю, змогуць утрымацца і нават здабыць у сям'ю нядрэнныя грошы.



**Леў**
(24.07–23.08)

21-е і 25-е жніўня – вельмі дрэнныя дні. Звярніце на іх увагу і не прымайце падзеі блізка да сэрца. У іншыя дні вы зможаце добра выкарыстаць атрыманую інфармацыю.



**Дзева**
(24.08–23.09)

Вы зможаце лёгка здабыць грошы, забяспечаны таксама поспех у любых справах, якія тармазіліся доўгі час. У прадчуванні паласы шанцавання – настрой лёгкі.



**Шалі**
(24.09–23.10)

Нестабільны настрой 23–25 жніўня. Магчымае недамаганне. Вы не знойдзеце разумення нават у самым блізкім коле. Асцерагайцеся ў гэтыя дні зносінаў з прадстаўнікамі вогненных знакаў, таму што іх імпульсіўнасць можа зблытаць вашыя планы.



**Скарпіён**
(24.10–22.11)

24-25 жніўня да вас лепш не набліжацца, вы будзеце займацца тым, што з'яўляецца "фірменнай рысай" Скарпіёнаў, – самаедствам. Астатнія дні пройдуць дастаткова спакойна.



**Стралец**
(23.11–21.12)

Небяспека раненняў ці апёкаў. У дзелавой і матэрыяльнай сферы – даўно чакаемыя грошы ці дабраты. Для тых, хто заняты грамадскім жыццём, адкрываюцца нядрэнныя перспектывы. 26 – вечарынка.



**Казярог**
(22.12–20.01)

Калі вы яшчэ не падарожнічалі, можаце смела адпраўляцца ў дарогу. Да таго ж, вы ўжо атрымалі не адно запрашэнне ў госці. Магчымае атрыманне падарунка.



**Вадалей**
(21.01–19.02)

Нягледзячы на эмацыянальны ўздым, вам не пазбегнуць рашэнняў, якія пацягнуць за сабой негатыўныя наступствы. Непрадуманыя крокі могуць сапсаваць рэпутацыю. Ёсць небяспека траўматызму.



**Рыбы**
(20.02–20.03)

Нарэшце вы праявіце ўпартасць, імкненне да славы, што вельмі станоўча скажацца на вашай дзейнасці і ў асабістых справах.

## ■ КРЫЖАВАНКА

Ірына САХАЦКАЯ




**Па гарызанталях:** **3.** Багністае топкае месца. **6.** Школьная прылада, на якой пішуць мелам. **8.** Вузкі драўляны ці металічны вобад, які набіваецца на бочку, кадушку. **10.** 11-ы месяц каляндарнага года. **11.** Насценнае асвятляльнае прыстасаванне. **12.** Частка сушы, якая вострым вуглом выходзіць у мора. **13.** Жыхар Венгрыі. **15.** Насякомае, якое скача і стракоча крыламі. **17.** Дугападобнае перакрыццё праёма ў сцяне. **18.** Расліна сямейства злакавых, падобная на авёс. **19.** Кавалак тканіны, які засцілаюць на стол. **20.** Спосаб пісьма старажытных народаў Пярэдняй Азіі. **22.** Тонкія вяровачкі ў лапцях, якімі абмотваюць анучы. **23.** Непраўдзівы чалавек; выдумшчык. **26.** Своеасаблівы чалавек, дзівак. **27.** Маці.

**Па вертыкалях:** **1.** Вялікі кусок лямцу. **2.** Пласкадоннае судна або плот для пераправы цераз раку. **4.** Вузкая паласа, лінія. **5.** Самец дзікай свінні, дзік. **6.** Ліставы лес са значнай колькасцю дубоў. **7.** Альховы лес. **8.** Самая нізкая школьная адзнака. **9.** Перыядычнае выданне ў выглядзе кніжкі. **13.** Шматкаляровая дугападобная паласа на небе. **14.** Бацькаўшчына, родная краіна. **15.** Высокая травяністая расліна, са сцёблаў якой вырабляюць пяньку, а з семя – алей. **16.** Група гандлёвых суднаў, якія ідуць адно за адным куды-небудзь. **20.** Знак прыпынку. **21.** Умоўны знак для перадачы на адлегласць якога-небудзь паведамлення, распараджэння, каманды і пад. **24.** Кусок шкла, устаўлены ў аконную раму. **25.** Служыцель Бога і яго пасланец да людзей (рэліг.).

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў нумары 32**

**Па гарызанталях:** 3. Клунак. 4. Кропля. 7. Прабойнік. 9. Мова. 10. Карак. 12. Трал. 13. Жарт. 14. Пуня. 18. Збан. 19. Хлыст. 20. Елка. 21. Каталікос. 24. Камора. 25. Артыст.

**Па вертыкалях:** 1. Мара. 2. Хрэн. 3. Клінок. 5. Ясакар. 7. Праваднік. 8. Катангенс. 10. Катах. 11. Капот. 15. Абутак. 16. Цыкля. 17. Акалот. 22. Тара. 23. Кара.



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ігар ВЕЙС, фірма «ФАВАРЫТ».
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах.
Тыраж **7000 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска).
Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі.
**№33 (278) 18.08.2000.** Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №.
Падпісана ў друк у 13.00 17.08.2000

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** гасцініца "Вілія", капіравальны цэнтр "Парус". **Тэл. 55194, 55284.**
**Смаргонь:** Рэдакцыя "Новой газеты Сморгони", вул. Танкістаў, 8. **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у аддзяленні Белзнешэканамбанка ў Маладзечне, код 211, атрымальнік рэдакцыя «РГ»